# „НА ПИРЕСЯЛЁНЬНЯ“.

Разсказъ тетки Домны изъ Полѣсья.

М. Н. Косичъ.

Черниговъ.
Типографія Губернскаго Земства.
1903 г.

# На пиресялёньня.

Посвящается дорогой сестрѣ Агатѣ.

## ГЛАВА I.

### Наша сяло.

Мы ў свайомъ сялѣ
Вѣкъ свой вѣковали,
Ну такой нуды́,
Якъ намъ у Сибири,
Нашы дзяды й прадзяды
Ни зазнали.
Наша-жъ то сяло
Стайиць пры ʻрацѣ,
А за рэчкай лугъ,
А тамъ ўсе дубра́вы...
Йосьць у тыхъ дубра̀вахъ
Раві́ глыбакіе,
Горы высакія
Ляды шыракія.
Лѣцячкамъ святымъ
Чаго́ ў насъ нима?
У на̀шамъ гайо́чку
Грыбъ, арэхъ и жо́лудзь;
Усякая ягада:

И суница, и брусница,
Кастяница и чарница.
И рябина и калина,
Жавики й малина.
Усяго йосць тамъ!
Чорна ягада смародыня --
И тая расьцье па лугамъ.
А што па вясьнѣ,
Якъ пачане лѣсъ раскидацца
Уси лужки, далины
Траукай уряджацца,
Какалуши па лясу распущацца!
Божухна мой милый,
Во якъ тамъ прыгожа!
Такія дзиковинки
Якъ тамъ у Расуси
Ни знайдзишъ нийдзѣ
У цѣлай акрузи.
У насъ крэпка душна
У лѣтку ни бывая.
А што тамъ у зимку
Якъ марозъ прысьпѣя,
Унясешъ у хатку
Сухенькихъ дравецъ,
Вытапишъ лижанку,
Тады нлша хатка.
Цёплая якъ матка,
Сядзишъ сабѣ—люба!
Посканьни прядзешъ;
А ще, кали трапицца

(*) Какалуша черемуха

Й пѣсню завядзёшъ.
Праўда, што бывáла
Хлѣба ни багацька—
Йета ни ў дзикóвинку
Хоць галадавали,
Да ни памирáли.
Тамъ у насъ и такъ бывáла:
У каго хлѣба ни хватáла.
Паѣдзьё на „пáньськая“
Нарубáя дрóў,
Возъ лыкъ накладзье,
У гóрадъ атвязье,
И хлѣбца припасье.
Можна быль жыць;
Што Бога гнявиць!

## ГЛАВА II.

### Наши зборы ў дарогу.

Во й задумали Расусцы
На пиресялѐньне.
Штобъ яму, такому-прайѐткаму
Сьвѣтъ съ аўчы́нку стáў,
Хто йету моду трыклятую—прыгадáў.
Зъ раньнія вясны
Сохи пакидáли,
Якъ цыгани-башлыки,
Дабро прадавáли,—
Што дзяды́ нажывáли;
Спóрюцца, талкýюцца,

Якъ жыды гвалтýюцца
Па сялу бунтýюцца.
Чагó-жъ йета у Грыньки Сóбаля
Што дзень свáрюцца?
А бывала-жъ тамъ йетаго ня чýтна.
Хоць сыны яго й пажанúлися,
Ну жылú у кýчи, ни дзялилися.
Йонъ сыноў измáлечку
Устраху дзиржáў
Патачки ни вóднаму ни даваў,
Ни такъ, икъ Кавáль:
Кали хто съ сыноў у крáжы папаўся,
Бъе таго йонъ здóраво, прымаўлвўшы:
У цябѣ руки дóўги.—
Крадь; ни пападайся,
Ну трýдна папаўся,—
У дворъ низварачáйся,
У Сóбаля тожъ—
Сынъ законъ прыстýпя,—
Йонъ яго атлýпя,
Тольки прычытáя
Йонъ вó якъ:
Ты ня трóнь чужóга
И ня бойсь никóга!
Чужóя дабро ни ў нажы́ву.
Аткýль чужбинка пры́дзье,
Туды яна й пóйдзье.
Грынька зъ малалѣтства
Змиренъ бы́ў,
Зроду мухи йонъ ни зачапíў
Ну, сыноў вучы́ў....

Сяре́дняму сы́ну Хвёдару
За бря́хню и крыўду
Пячонки атбиў.
А да́ли пабачиў
Што съ тыя наву́ки
Ничо́га нима апры́чъ муки,
И биць пиреста́ў
Тольки съ таго часу хму́ринъ стаў.
Нѣ, нибачыць Грынцы
Атъ сыноў пуця́.
(Такъ народъ гаво́ря)
Што съ таго, што бацька ву́ча,
Матка ихъ патво́ря:
Ажъ яно и праўда:
Якъ бывáла малы́й
Шъ чужо́га гаро́да
Прынясе ў пастаньни
Ци гурко́ў, ци бо́бу,
Матка таму́ й рада:
Ахъ ты мой сыночыкъ,
Прыне́съ мнѣ гуро́чыкъ!
Йонъ мнѣ и падъ стара́сць
Хлѣбца раздабу́дзье,
Вырасьцье вели́кій
Матку карми́ць будзье.
Хавай жа, штобъ бацька
Но́йды ни паба́чиў
А то якъ прыско́ча.
Во́ якъ прывало́ча.

## ГЛАВА III.

### Горя-гарева̀ньня.

Охъ! вы́пала го́ря,
Го́рячка ни ма́лая,
Приключылась дзѣла,
Дзѣла ни бывалая:
Дажда́ўшыся па́ски,
Мы́ свайѐ вуча́стки,
Скацину и вы́тварь
Прада́ць паспишали.
Бабы да́жа грядъ ни саджа́ли,
Заты́мъ, што была ду́мка:
После Вазьнясе́ньня —
На пиряселе́ньня.
Ажъ прайшла́ й Пятроўка;
Съ проччыхъ сёлъ людзи ѣдуць,
Мы жъ сядзи́мъ на мѣсьци;
Ни зъ во́ласьци, ни атъ зе́мськаго
Нима́ вѣсьци.
Во̀ пашли́ й касиць....
Лю́дзи жыта жнуць,
А нашы сидзя́ць,
Да вука́за ждуць.
На сялѣ бунта́цьня:
Жо́нки зъ мужыка́мы,
А дзяды́ съ бацька́мы,
Што дзень, то ругалися,
Зачымъ у Сибирь записа̀лися.

А што Грыпьку—сыны́
Ѣдзяць пóѣдамъ;
Падзялú, бáцька, насъ,
Давай грошы сюды,
Ни паѣдзúмъ мы тудú.
Грыньна йимъ ў ваткáзъ:
Знаю васъ, галубцы́,
Якавы вы малайцы́!
У васъ грошы
Пойдуць па раскóшы;
Вы йихъ, дýхамъ поправодзицье,
А тирязъ паўгóда
Съ кайстрай пóйдзицье,
Я свой вѣкъ пражыў
Мнѣ зимля ня трэба,
Васъ я хóчу прыпуцить,
На хлѣбъ сóль—уссадзúць,
Вы жъ таго ни цямицье,
Зъ бацьки жылы цягницье.
Грынька й самъ ташнýя.
Хўдшы нимú мýки,
Якъ хазяину, у гарячая ўрéмъя
Сядзѣць, склаўшы руки:
Во ужо й вéчаръ,
А Грынька ня ѣў, ня пиў
Хóдзя смўцинъ,
Нача душý загубиў,
А сыны пякýць...
Прамытай вады́ нидаюць.

Во якъ за тры мѣсяцы
Бѣднаго ссушыли,
Йонъ ажъ учарнѣу,
Хунта хлѣба за нядзѣлю,
Можа, йонъ ня зьѣу.
Божачка жъ мой Божа,
Штожъ йета будзье!
Ужо—й восянь; пачали ярь жаць
А нашай бумаги усо ни чуваць!
Ужо й Земській дзивавауся,
Куды тэй указъ задзивауся.
Адли самъ распазнау,
Што указъ расуській
У чужой у воласьци
Падъ сукномъ лижау.
Штобъ тымъ руки падсыхали,
Што яго падъ сукно паклали.;
Намъ жа трэба лѣцячка рабатаць,
Нечага жъ намъ будзя
У лѣваю руку узяць. (*)
Во за йетымъ самымъ,
Охъ яхъ бидавали!
Ни прывядзи Богъ,
Кольки муки мы прыняли.
Вотъ — жа на паслѣдакъ,
И намъ прыказали,
Штобъ пасля Прячыстыя. разгавѣушысь,
Мы на палустанакъ прыѣжджали.

---

(*) Т. е. въ правой рукѣ ложка, въ лѣвой хлѣбъ.

## ГЛАВА IV.

### Атъѣжджайимъ.

Жо́днаму журьба́,
Хто пиресиля́йийицца.
Хима Ива́ниха
Крэпка убивайицца.
Кали бъ, кажа, я йета лиха знала,
Я бъ жа свайой Дуни
Замужъ нитдавала,
Журицца па мнѣ,
Ня хоча тутъ заставацца;
Такъ заташнавала,
Што у ротъ ничо́га
Съ чацьверга ни бра́ла.
Высахла яна на былинку,
Ня спиць у начы́ ни на валасинку.
Охъ! дзѣтки, дзѣтки
Горя ма́тцы эъ ва́мы!
Затапи́ла мяне Дуня
Свайимы слиза́мы.
Ничо́га ни ка́жа.
Ничо́га ня про́ся,
Ся́дзя мо́ўчки на ла́ўцы,
Да—й,гало́ся.
Во прысьпѣла ўре́мъячка,
Во настаў дзянёчыкъ,
Прышо́ў и часо́чыкъ
Выѣжджаць намъ....

Ужо—й снѣдаць панагатавáли,
Ужо - й вазы́ паўвязàли,
Тольки—еще коній ни пазапрягáли.
Охъ и хто—жъ то
Калá мосту убиваи́цца?
Ни дачкà йета зъ маткай пращáицца,
То ўнука зъ бабусяй *) разлучáицца.
Бабусичка жъ ты мая,
Ты жъ за мной и нóчачку ни ўсыпáла
Ты жъ мяне нядýжую даглядала!
На чужой старóнцы
Куды жъ я галовачку прыхилю?
Ѣду жъ я туды горькай siратóю!...
Майе жъ роды́ цяжóлые,
Бизъ цябѣ бабусичка
Мнѣ ня быць жывóю....
Лютая сьвякруха мяне ни ўзлюбила,
Бóлшая нявѣстка за бузáнъ забúла,
Мною тры залóўки, якъ анýчкай труць,
А якъ занядужаю, мнѣ вѣры няймуць.
У сямъѣ мнѣ цяжка—
Заразъ я къ бабуси,
Прыйду къ йой,—паплачу,
Тольки жъ и уцѣхи
У яйе пабачу.
Я зъ йою у мѣсьцячку пагарюю,
Лáскавая словечка атъ яйе пачую...

---

*) Повивальная бабка.

Пара́-жъ ужо!, кажуць мущыны,
Чаго далій ждаць....
Памалились Богу, паклоны атбили,
Пашли запрягаць....
Выхо́джу я за варо́цячки,
Стала на бугрѣ.
Васе́ньній дзянёчыкъ,
Якъ цихая лѣцячка,
Соньняйка зьзяйе,
И яно насъ горькихъ
У Сибирь праваджае.
Зьбѣгаю на скорую, я къ панамъ
Съ ўсимы пращу́ся,
Зъ барышняй Адашай
Мы ў серцахъ—пайду памирюся.
Паны нашы насъ ни забиджа́ли
Нойды *) кала́ ихъ мы й хлѣбъ зарабля́ли.
Усхо́джу на гару́,
Яны павыходзили.
Кинулась я къ йимъ у ноги,—агу!..
Прамоўвиць славечка ни змагу.
Адли́ ачу́халась, да—й кажу;
Кали была ху́да,
Цяперь ни кляни́ця,
Ставайцьесь здаровиньки!
Богъ васъ упасе́....
А нашай воранъ ко́стачки

---

*) Иногда.

Сюды ни занясé.
  Тольки што хацѣлá
  Яще штось сказаць,
Глянула назадъ, ажны Грынька Сóбаль
Запрягши коня—первый возъ вядзье,
За йимъ Каваленакъ,
А тамъ й Иванъ Масяёнакъ.
Серца майо йокнула,
Ноги падламилися,
Вó зарàзъ упасьць...
Хто быў на рабоци,
Уси бягýць съ пóля
Къ намъ пращàцца,
Жалка яно крѣпка
Съ свайимъ крàямъ раставацца!
Схóджў я зъ горы́,
Глянула у выкрýгъ:
Нийдзѣ ни шалóхницца,
Увесь лѣсъ прыцихъ.
А майо жъ то серца
Тыхъ—тыхъ тыхъ....
Вóчачки майе слязьми засланúлися
Чы́ста, скрозь намётку,
Ничóга ни бáчуць.
Здаéцца мнѣ ей жа Богу,
Што жóдный кустóчыкъ, дубы и бярезы
Уси плачуць....—
Мы жъ тутъ свѣтъ пабáчыли,
Тутъ мы й узрасьлú,
Маладыя лѣцячки

Нашы тутъ твилѝ....
Аставайцися жъ вы, майе лясочки,
Прыгóрачки—й бугарóчки!
Атъѣжáю жъ я у далёкую старóначку,
Палажы́ць мнѣ тамъ и галóвачку.
Пращай мая рэчачка и ручайочки!
Бóлій я сюды ни зьвярнусь,
Студзéнай вадзичачки ни напъюсь.
Во—й сяло пазáдзи застáлася,
За глыбокай дарóжкой падъ лясôчкамъ
Паша цéрькаўка паказалася.
Баслави маци, святая Прячыстая,
Насъ у пуць дарóжачку....
Во й на поля ўзышли
Я иду, иду,—назадъ аглянуся—
Слизáмы зальлю́ся....
На палустанки доўга паджыдàли
Тольки пирядъ вéчарамъ вагоны падáли
И зéмській прыбыў....
Я ужó пирепла́калась,
Стаю́, да маўчу—нача каминàя,
Дàли рáзамъ.. якъ у звонъ удàрыли!....
Якъ закалачуся я...
Усе майо цьѣла
Ажъ пахаладзѣла!
А што Дуня Ивáнава
Сащапила крэпка матцыны калѣни,
Къ ножачкамъ прыпáла,
Рукъ ни разымàйя,
Матки ни, тпу́шая.

Зе́мській падышо́ў, растря́цця вялѣ́ў,
А самъ якъ папе́ра увесь зьбялѣ́ў,
Уря́дникъ падско́чыў, Дуню атцягнуў,
А Химу наси́лна у вагонъ пихну́ў.
Дуня абамлѣла... хацѣли вады́ даць,
Ни якъ зубо́ў ни разьняць....
Зашумѣло... сьвиснуло... зь мѣста зьдз-
винулись
Мы къ вакошку кинулись....
И стали хрясцицца,
У ко́жнаго слазы пача́ли кацицца.

**Конецъ 1-й части.**